Фота Дзмітрыя Якубовіча

## Мерапрыемствы АПБ на 2014 год, у якіх мы запрашаем удзельнічаць:

- **1-31 студзеня** - Зімовыя ўлікі вадаплаваючых птушак
- **18-19 студзеня** - Акцыя «Птушкі на кармушцы»
- **25 студзеня** - З'езд АПБ у Мінску
- **усю вясну** - Агульнаеўрапейская кампанія «Жывая вясна»
- **1 красавіка** - Міжнародны дзень птушак
- **сярэдзіна красавіка** - Летнік «Начныя жыхары ляСОЎ»
- **травень-ліпень** - Улікі вяртлявай чаротаўкі
- **17-18 траўня** - Салаўіныя ночы
- **ліпень-жнівень** - Валанцёрскія летнікі на балоце Ельня
- **6 верасня** - Чэмпіянат по спартыўнай арніталогіі
- **4-5 кастрычніка** - Восеньскія дні назірання за птушкамі
- **пачатак лістапада** - Летнік «Начныя жыхары ляСОЎ»
- **лістапад-снежань** - Патруляванне ласасёвых рэк

# Дроп, з надзеяй на вяртанне

Сяргей Зуёнак, Аляксей Цішачкін



Самец падчас такавання. Фота Сяргея Елісеева

Тут жывуць дропы. Фота Станіслава Хучраева (Саратаўская вобл.)

Яшчэ параўнальна нядаўна – сотню-другую гадоў назад – гэтая вялізная птушка сустракалася амаль па ўсёй зоне стэпаў, лесастэпаў і паўпустыняў Еўразіі і паўночна-ўсходняй Афрыкі. Гнездавы арэал яе прасягаўся шырокай разарванай паласой ад Пірэнейскай паўвыспы на захадзе праз паўднёва-ўсходнюю Еўропу і Каўказ да Малай Азіі і стэпаў Забайкалля, ахоплівала гэтая паласа таксама паўднёвую і цэнтральную частку Беларусі. Сучасная ж мапа распаўсюджвання дропа ўяўляе сабой фрагментарны набор плямін, супадаючых з рэштkамі яшчэ не знішчаных да канца натуральных адкрытых прастораў. Дарэчы, сустракаецца дроп і на сельскагаспадарчых землях, большай часткай на пасевах збожжавых культур, там, дзе яго не вельмі турбуюць. Паўсюдна, дзе толькі яшчэ можна сустрэць гэтую велічную птушку, яна належыць безумоўнай ахове, што ўсё ж дае ёй нейкую надзею на будучыню, але ўсіх праблемаў, на жаль, не вырашае.

Вялізны (дарослыя самцы могуць дасягаць вагі 12 кілаграмаў і маюць размах крылаў амаль два з паловай метры) дроп па ўсіх параметрах прыстасаваны да жыцця на зямлі. Адносна высокія моцныя ногі, якімі птушка па зразумелай прычыне карыстаецца значна ахвотней, чым крыламі; буравата-рудая з чорнымі страказінамі афарбоўка, ідэальна маскіруючая птушку на фоне зямлі і пажухлай травы; моцная кароткая дзюба, прыстасаваная да харчавання насеннем і раслiннасцю, – дзякуючы гэтаму набору рысаў дроп знешне вельмі нагадвае курыных птушак, хаця на самай справе адносіцца зусім да другога атрада – жураўлепадобных, дзе выдзяляецца ў асобнае сямейства драфіных. На еўрапейскім кантыненце сустракаюцца яшчэ два прадстаўніка гэтага сямейства – дроп-красуля, альбо джэк, і стрэпет, прычым апошні да нядаўняга часу таксама адзначаўся на тэрыторыі нашай краіны. Дарэчы, калі не судзіць занадта строга, полавы дымарфізм у дропа выяўляецца не столькі ў афарбоўцы, колькі ў памерах: самкі значна драбнейшыя за самцоў і важаць амаль удвая менш за іх. У гэтым плане дроп з'яўляецца своеасаблівым рэкардсменам сярод птушак.

Як і іх бліжэйшыя сваякі – жураўлі – дропы вельмі асцярожныя. На небяспеку яны рэагуюць за некалькі соцень метраў, таму наблізіцца да птушак на адлегласць, скажам, трапнага стрэлу амаль немагчыма. Больш даверліва адносяцца дропы да сельгастэхнікі, падпускаючы яе на больш-менш кароткую адлегласць. Менавіта гэтую асаблівасць і выкарыстоўваюць часам браканьеры пры паляванні на гэтых знікаючых птушак. Браканьерская здабыча, безумоўна, аказвае свой адмоўны ўплыў на стан папуляцый дропаў, але, усё ж, галоўнай прычынай паўсюднага знікнення гэтага віда, як, дарэчы, і многіх-многіх іншых, з'яўляецца знішчэнне натуральных месцаў іх пражывання.

Вялікая асцярожнасць дропаў, з аднаго боку, павялічвае шансы на выжыванне віду, а з другога – рэзка зніжае выбар стасоўных для пражывання месцаў, паколькі селіцца гэтая птушка толькі ў мясцінах, якія рэдка наведваюцца чалавекам, а такіх з кожным годам застаецца ўсё менш і менш. Стратэгія паводзін самкі падчас наседжвання таксама «не на руку» віду. Да апошняга спадзеючыся на сваю маскіровачную афарбоўку, самка дропа настолькі шчыльна сядзіць на гняздзе, што на яе можна амаль наступіць нагой. Але, усё ж пакінуўшы гняздо пры небяспецы, вяртаецца да яго самка з крайняй неахвотай, а то і не вяртаецца зусім.

Сучасныя памеры глабальнай папуляцыі дропа ацэньваюцца ў 43500-51200 асобін (улікі звычайна праводзяцца на зімоўках, у гэтым выпадку падлічваюцца не пары, як пры ўліках большасці

**З такой уразлівасцю дропавых гнёздаў звязаны адзін вельмі павучальны выпадак. Збіраючы ілюстрацыі для артыкула, рэдакцыя паміж іншым замовіла ў расійскіх калег здымак гнязда дропа. У шэрагу з цудоўнымі здымкамі саміх птушак мы атрымалі фота гнязда жураўля-красулі з каментарыямі, што гняздо і яйкі дропа выглядаюць амаль так жа, вось толькі бруду ў гняздзе няма. А вось наблізіцца да гнязда дропа нават на кароткі час з навуковымі мэтамі арнітолагі не рашаюцца, каб не падвяргаць гняздо рызыцы быць кінутым альбо загубленым драпежнікамі.**



**Самец дропа. Фота Станіслава Хучраева (Саратаўская вобл.)**

птушак падчас гнездавання, а менавіта асобіны). У апошнія дзесяцігоддзі гэтая колькасць застаецца больш-менш пастаяннай, у першую чаргу дзякуючы стабільнасці і нават росту іберыйскай папуляцыі (каля 60% сусветнай папуляцыі дрофаў сканцэнтравана ў Іспаніі). Невялікія папуляцыі ў Германіі, Венгрыі і Аўстрыі ў апошні час таксама крыху павялічваюцца, у асноўным дзякуючы добра наладжанай ахове.

Значна горшая сітуацыя склалася ў іншых еўрапейскіх краінах, дзе сустракаўся дроп, – у канцы мінулага стагоддзя (1990-я гады) канчаткова зніклі апошнія невялікія папуляцыі ў Балгарыі, Румыніі, Польшы, Малдове і Чэхіі. Крыху лепей на гэтым фоне выглядае Украіна, чыя папуляцыя ацэньваецца ў 500-850 асобін, тым не меньш у Падоллі і Карпацкім рэгіёне адбылося лакальнае выміранне віду. Адзначаная дэградацыя, звязаная з інтэнсіўным асваеннем цалінных земляў, пачалася у 20-40-я гады мінулага стагоддзя і працягвалася да 1970-90-х гадоў, калі націск людзей на прыроду пачаў пакрысе змяншацца.

У Брытаніі дроп як гняздуючы від знік у 1832 годзе ў выніку знішчэння птушак паляўнічымі, антрапагеннай трансфармацыі біятопаў і пагаршэння клімату. Зараз брытанскімі навукоўцамі сумесна з расійскімі калегамі распрацоўваецца праект па рэінтрадукцыі расійскіх дропаў на раўніны Солсбэры, дзе на тэрыторыі вялізнага запаведніка і не меншага па памерах вайсковага палігона ў дадатак маюцца ўсе ўмовы для існавання гэтага віду. Сутнасць праекта заключаецца ў зборы яек расійскіх дропаў, якія па тым альбо іншым прычынам не маюць шансаў на выжыванне, іх далейшай штучнай інкубацыі і транспарціроўцы птушанят у Англію. Папярэднія разлікі паказалі, што, маючы каля 40 птушанят, на працягу 5-10 гадоў цалкам рэальна стварыць базавую папуляцыю ў 100 асобін. Тэорыя не вельмі разышлася з практыкай: праграма пачалася ў 2003 годзе, у 2007 мясцовыя птушкі пачалі такаваць і рабіць гнёзды, а яшчэ праз 2 гады былі адзначаны два першыя выпадкі паспяховага гнездавання.

У Беларусі яшчэ ў XIX стагоддзі дроп быў распаўсюджаны даволі шырока, маюцца звесткі аб яго знаходжанні ў 20-40-я гады ў



**Калісьці такое было і ў нас... Фота Станіслава Хучраева (Саратаўская вобл.)**

**Самка дропа. Фота Сяргея Елісеева**

наваколлі Гародні, Слоніма і Слуцка. У самым пачатку XX стагоддзя сяляне-паляўнічыя на Піншчыне добра ведалі дропа і яго назву, але від у гэты час ужо быў рэдкім. У 1920-я гады дроп згадваецца як рэдка гняздуючы від у Брэсцкім, Камянецкім, Пінскім, Рэчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім, Брагінскім і Добрушскім раёнах.

**У самым пачатку чэрвеня 2009 года адбылася падзея, якая дала назву гэтаму артыкулу, а яго аўтарам – падставы спадзявацца на тое, што дроп ўсё ж не знік з тэрыторыі нашай краіны канчаткова, альбо пачаў зноў вяртацца да нас. Йенс Клінкер (Jens Klinker), нямецкі арнітолаг-аматар, едучы на цягніку, дзесьці ў наваколлі Бярозы заўважыў праз вакно птушку, якую ён адназначна ідэнтыфікаваў як дропа. І хаця гэтае паведамленне дагэтуль не атрымала афіцыйнага статуса, кваліфікацыя назіральніка і яго вопыт «зносін» з дропамі не даюць асаблівых падстаў не давяраць адэкватнасці вызначэння віду. Ну і акрамя таго, як кажуць, надзея заўжды памірае апошняй...**

Самае позняе афіцыйна засведчанае гнездаванне адзначана ў 1929 годзе ў наваколлі вёскі Кузьмінічы на Добрушчыне. Літаральна праз два гады падчас экспедыцыі на Рэчыцкае Палессе прафесар А.В. Фядзюшын ужо не бачыў ніводнага дропа, але чуў ад мясцовых жыхароў, што гэтыя птушкі на Палессі яшчэ гняздуюцца, у прыватнасці ўзгадваліся назіранні вывадкаў у наваколлі вёсак Багушы і Хатучы Брагінскага раёна. У даследваннях М.С. Долбіка, якія ён праводзіў у 50-я гады мінулага стагоддзя, дроп ўжо не адзначаецца. Апошняя афіцыйна зарэгістраваная сустрэча з невялікай чародкай дропаў адбылася ў 1965 годзе на Брэстчыне...

Згодна дадзеных мэтра беларускай арніталогіі мінулага стагоддзя прафесара Фядзюшына, гнездаваліся нашы дропы на вялікіх пясчаных пустэчах, парослых рэдкімі невысокімі сасёнкамі, занядбаных палях і адкрытых прасторах з пясчанымі дзюнамі і рэдкімі зарасцямі ракітніка. Заходняя частка папуляцыі была аселай, цэнтральная і ўсходняя адвандроўвалі крыху на поўдзень, пакідаючы гнездавыя стацыі ў сярэдзіне кастрычніка і



**Гняздо жураўля-красулі. Фота Станіслава Хучраева (Саратаўская вобл.)**

з'яўляючыся зноў у першай палове траўня. Асноўнай прычынай знікнення беларускіх дропаў прафесар лічыў асваенне занядбаных палёў і пясчаных пустэчаў, а таксама паўсюдны выпас свойскай жывёлы. У сувязі з гэтым вельмі перспектыўнай ідэяй, якая нечакана з'явілася ў аўтараў падчас падрыхтоўкі гэтага артыкула, выглядае рэінтрадукцыя дропа на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, у так званай «Зоне», дзе хапае і пясчаных пустэчаў, і занядбаных палёў, якія ніхто не асвойвае і нават не выпасае там жывёлу, а самае галоўнае – там цалкам адсутнічае антрапагенны прэсінг. Справа, як заўжды, за малым: патрэбен ініцыятар-энтузіяст і мецэнат, згодны ўкласці сродкі ў такі неперспектыўны па сучасных паняццях бізнэс – захаванне рэдкіх і знікаючых відаў.

# Ельнянские гагары



Валерий Коваленок, Шарковщина. Фото автора



В северной части Беларуси расположено одно из красивейших верховых болот Ельня. Мне очень повезло в этой жизни. Я родился и вырос возле этого прекрасного места. Все детство и лучшие годы провел в лесу и возле болота. Красота и уникальность этого уголка природы стали моей отправной точкой. Так вышло, что я не стал ученым, но всю свою сознательную жизнь посвятил Ельне. Исходив ее вдоль и поперек, сейчас я знаю ее досконально. Увлекшись фотоохотой, стал еще чаще посещать болото и охотиться за интересными моментами из жизни его обитателей. Птицы, наверное, одни из самых удивительных созданий природы. Большие и маленькие, пестрые и невзрачные, редкие и обычные. Все они встречаются на болоте. Чернозобая гагара – одна из редких водоплавающих птиц, гнездящихся на болоте Ельня. Ввиду своей скрытности, осторожности и малочисленности эта занесенная в Красную книгу Беларуси птица редко попадается на глаза. Большая, с густым оперением, с узкими короткими крыльями, достигающими, тем не менее, в размахе более метра, гагара окрашена довольно пестро. Верх тела черный; на передней части спины и плечах белые четырехугольные пятна, которые создают шахматный рисунок. Голова и шея пепельно-серые. Горло черное с металлическим отливом. Низ белый. Ну чем не фотомодель?!

Уже много лет подряд я наблюдаю за гагарами, и каждый раз снять их хорошо как-то не получалось. Неоднократно находя весной гнездо на одном из озер, все боялся потревожить птиц. Каждый раз старался побыстрее покинуть гнездовой участок, а когда появлялись птенцы, то взрослые гагары уводили молодняк на другой берег или держались середины озера. Вот так и расходились наши пути, но, видно, птицы привыкли постоянно видеть меня, и вот в этом году они, словно пожалев незадачливого натуралиста, преподнесли мне подарок, и даже не один, а целых два. Весной, делая очередной обход болота, решил я посетить группу озер, где располагалась колония чаек. Увлекшись съемкой этих беспокойных птиц, краем уха неожиданно услышал свист крыльев и всплеск воды. Судя по всплеску, «приводнился» кто-то немелкий. Быстро надеваю маскировочный халат и крадучись иду в направлении всплеска. Прячась за низенькие сосенки, внимательно осматриваю водную гладь. Ага, вот промелькнула голова, еще пару шагов – и я увидел... гагару. Красивая птица грациозно плавала вдоль берега, и что-то ее явно волновало. Стоя по колено в воде, я начал искать глазами место посуше. Повернув голову влево, неожиданно для себя замечаю еще одну птицу. Расстояние для съемки большое, решаю тихонько обойти гагар с другой стороны озера. К сожалению, обойти не получается: зыбучий берег и вода преградили путь. Подумав, решаю вернутся назад и как можно более скрытно подойти к птицам, а пока можно и чаю попить, дать гагарам успокоиться.

Полчаса прошло незаметно. Закончив с чаепитием, собираюсь выполнять свой план. Поправляю камуфляж и проверяю боеготовность фотоаппарата. Медленно, шаг за шагом, пригнувшись, где на корточках, а где «гусиным шагом», передвигаюсь в направлении, где видел гагар. Меня спасают небольшие сосенки, которые растут на пути и скрывают мое передвижение. С каждым шагом волнение нарастает. На самом берегу замечаю две пышные сосенки, растущие близко друг от друга и образующие густой куст. Это идеальное укрытие, позволя-



ющее наблюдать за птицами. Стараясь не шуметь, обламываю нижние суки и прячусь в небольшом проеме между деревьями. Минут пять сижу тихонько, словно мышь, и только потом начинаю осматривать водоем. Вон одна гагара плавает вдоль берега, ага, а вот и вторая. Обе птицы находятся недалеко друг от друга. Сейчас самое время наблюдать и ждать подходящего момента. В ожидании проходит пару часов, за это время птицы то приближались, то удалялись от меня. Время от времени они ныряли и подолгу, минуты по полторы-две, находились под водой, всплывая в самом неожиданном месте. В какой-то момент я потерял из виду одну птицу, и вдруг она вынырнула прямо перед моим укрытием. Это мгновение длилось для меня целую вечность. От неожиданности мы оба застыли в оцепенении. Гагара смотрит на меня, я – на нее. Рука медленно тянется к кнопке затвора, но вот птица встрепенулась и начала медленно отплывать. Еще несколько секунд – и она нырнула. Хотя я и успел нажать на спуск, но гагара в фокус не попала.

Думать и мечтать о повторе нет смысла. Тем не менее, продолжаю наблюдение и оказываюсь вознагражденным. Обе птицы отплыли в самый дальний угол озерка, поочередно стали разгоняться, бежать по воде и уже возле противоположного берега резко тормозить. Только после третьего или четвертого «забега» я понял, в чем дело. Поскольку птица крупная, ей, чтобы взлететь, нужен разгон, а озерко маленькое, вот гагары и меряли длину «взлетной полосы». Такое я наблюдал впервые. Уже дома из справочника я узнал, что для взлета гагарам нужно 15-20 метров. После «примерки» птицы немного отдохнули, и вот он самый неповторимый момент – взлет. Гагары начали синхронный разгон. Словно глиссеры, опираясь о поверхность воды и взмахивая крыльями, они бегут по озеру. Еще пара секунд – и обе птицы в воздухе. Рассекая его крыльями, они со свистом пронеслись мимо меня и улетели на большое озеро. Долго еще я сидел в оцепенении и снова и снова прокручивал в мыслях увиденное, а только потом просмотрел на мониторе камеры снятые кадры.

История с гагарами на этом не закончилась. Примерно через два месяца, возвращаясь с болота домой, решил умыться и отдохнуть на озере Валозе. Озеро входит в болотный массив Ельня, но находится на самом его краю и расположено в непосредственной близости от деревни Буды. Погода солнечная, на озере много отдыхающих. Кругом шум и гам. Я решил немного отдалиться от людей и прошел берегом в сторону леса. Прежде чем окунуться в воду, по привычке решил осмотреть озеро через телеобъектив – и чуть не выронил из рук фотоаппарат от удивления. На дальнем берегу вдоль желтых кубышек плавают гагары, и не одна, а целых три. Семья! Вот папа, мама и уже подросший птенец. Вот это круто! Уму непостижимо, как они здесь оказались, ведь кругом людно и шумно. Решив не упускать этот шанс, расстегиваю молнию на сумке. Торопливо надеваю своего «лешего» и быстрым шагом иду вдоль берега к птицам.

Пока гагары далеко, можно идти баз опасения быть замеченным, но с каждым шагом нужно проявлять все большую осторожность. Прекрасно зная озеро и зная, где плавают птицы, большую половину пути прохожу быстро. Все, дальше



Фото: С. Зуенок



Справа малодая птица

нужно действовать как можно тише. Шаг за шагом продвигаюсь вперед. Все время приходится пробираться через заросли крушины и ивняка. Хотя под ногами и есть еле заметная тропинка, но она вся перерыта бобрами – того и гляди, провалишься в нору. В небольшом проеме между кустами просматриваю гладь озера – птиц не видно. Странно как-то получается. Впереди маленькая затока, вся надежда на нее. На корточках преодолев небольшой участок, снова выглядываю и осматриваюсь. Снова ничего. Ерунда какая-то.

Продвигаться дальше нет смысла: там открытый участок и спрятаться негде. Однако что-то внутри подсказывает, что торопиться не надо, стоит подождать. Притаившись в тени дерева, начинаю ждать, ведь птицы где-то рядом. Мое терпение вознаградилось: через некоторое время мимо меня вдоль самого берега не спеша проплыла вся семейка. Из-за густой травы мне видны только головы птиц. Снимать нет смысла, но и двигаться категорически нельзя. Вот гагары перестали плыть и, застыв на месте, начали внимательно осматривать водную гладь и берег озера. Спустя минуту птицы стали потихоньку отплывать от берега. Их явно что-то насторожило – может, мое сердце, которое бешено колотилось от волнения. Чуть приподнявшись над травой, начинаю снимать и уже заранее чувствую, что ничего хорошего из этого не выйдет. Солнце светит прямо в объектив, даже бленда не помогает. Опускаю камеру и смотрю гагарам вслед, вернее сказать, в хвост. А они переплывают на другую сторону затоки и начинают кормиться. В моей голове мелькает мысль: «А чем черт не шутит, когда Боженька спит!» Обхожу озеро с другой стороны и прячусь в густом тростнике. К моему удивлению, гагары понемногу приближаются. Рыбак в лодке появился на озере, вот птицы и плывут в мою сторону. Когда гагара ныряет, то неизвестно, в каком месте она вынырнет. Вот и сейчас птицы ныряют, раз за разом выныривая все ближе ко мне. Очередное погружение – и непонятно, куда смотреть, а когда ныряют все птицы одновременно, то получается реальная нервотрепка. При небольшой волне трудно сразу заметить, где появилась голова гагары. На воде тело гагары практически полностью погружено, и только голова, словно перископ подводной лодки, покажется на несколько секунд глотнуть воздуха – и снова погружение. Но сегодня мне повезло больше. Ныряя, птицы появлялись на поверхности и некоторое время плавали, приводя свое оперение в порядок.

И вот оно свершилось! После очередного погружения одна из птиц вынырнула практически рядом со мной. На этот раз я был готов к съемке и начал «стрелять» раньше, чем птица меня заметила. Ошеломленная гагара услышала щелчки затвора и, еще не понимая, что происходит, начала отплывать к центру озера, а потом нырнула и через некоторое время появилась уже на другом берегу. Негромкий крик – и вот уже вся семья плавает вместе. Все, съемка окончена. Нет смысла гоняться за гагарами дальше. Сейчас самое время отдохнуть и привести свои мысли в порядок. На этот раз мне повезло, можно с уверенностью ставить очередной жирный плюс в списке фототрофеев.



# В КРАЮ МАЛЕНЬКИХ «ЛЮДИ»

**Юрий Емельянов (по материалам сайта BirdWatch.by). Фото автора**

**– Кто сюда другой придет? – спросил я его в свою очередь.**
**– Как кто? – удивился он. – Енот ходи, барсук или ворона; ворона нет – мышь ходи, мышь нет – муравей ходи. В тайге много разный люди есть.**

**В.К. Арсеньев, «Дерсу Узала»**



**Паук с добычей**

Полесье всегда представлялось мне диким и таинственным краем. Краем, дух которого я впитал еще в детстве из любимой книги Янки Мавра «Полесские робинзоны». Краем бесконечных болот и непролазных джунглей, роскошных дубрав и пышных лугов, заросших стариц с темной водой и могучей реки. Краем, где по преданиям несколько тысяч лет назад плескалось обширное Море Геродота. Краем, сулившим самые невероятные и неожиданные встречи. Но я и предположить не мог, какого рода встреча оставит самое сильное впечатление. И что придется вспоминать не Янку Мавра, а Джонатана Свифта и его незабываемую повесть о путешествии Гулливера в страну Лилипутию.

С первых шагов Полесье оправдало свою славу царства воды. Прошедшие накануне дожди быстро превратили местность в подобие Амазонии. Легко представить, что тут делается во время весеннего половодья. Нередкие в прибрежных рощицах песчаные дюны с ракушечными вкраплениями заставляют уважительно поглядывать в сторону недалекой реки.

Вдоль тропы тянутся скошенные луга. Они здесь не сплошные, а больше похожи на осьминогов, запустивших свои длинные щупальца в любые мало-мальски сухие места между многочисленными старицами, болотцами, дубовыми рощицами и тальниковыми островками.

Сколько птиц вокруг!

Мелкие птахи облюбовали ивовые кусты, густо прошитые диким хмелем, и кроны деревьев. Серая мухоловка, пеночки, тростниковая овсянка, черноголовая славка, синицы, жулан – всех не перечислишь. Дополняет картину самка большого подорлика, внимательно наблюдающая за нами с высоты.

На заросших безлюдных старицах высматривают добычу большие белые цапли. Эти зоркие птицы чрезвычайно осторожны. Чуть высунешься – увидят за несколько сот метров и тут же взлетают. С шумом проносятся стаи уток.

А вот и река с необыкновенно красивой песчаной отмелью. От этого чудного места уходить уже и не хотелось. Расположились на высоком берегу возле зарослей душистой мяты. Будет чем чай облагородить!

Здесь тоже кипела жизнь. Пчелы, шмели, мухи-журчалки, – всем хватало сладкого нектара. Паукам тоже было нескучно – знай, лови себе добычу!

Вечерело. От костра тянуло непреодолимо вкусным запахом. Гречневая каша, приправленная тушенкой, с легким горьковатым привкусом дыма – восхитительное блюдо в походных условиях. Уютно устроившись возле огня, мы дружно забарабанили ложками.

Неподалеку появилась полевка и принялась мирно грызть какое-то растение, поглядывая в нашу сторону. Идиллия. Ничто не предвещало каких-либо проблем.

Похоже, мы ошибались. Скорее всего, полевка была подосланным лазутчиком. Через некоторое время она исчезла, и спустя несколько минут откуда-то из-под заготовленных для костра дров раздался залихватский свист. Тогда мы еще не поняли, что это был боевой клич «индейцев», выкопавших топор войны. Грызуны обнаружили на своей территории пришельцев с провиантом и созывали «войско».

На свою беду я наварил гороха для утренней рыбалки и беспечно оставил его в котелке на земле. Не прошло и получаса после того, как мы улеглись в палатке, как крышка котелка вдруг забренчала. Под покровом тьмы происходило что-то подозрительное и непонятное.


**Соблазн велик**


**Проныра**


**Мыши осмелели**

Я шикнул, раздался легкий топоток, и наступила тишина. Но ненадолго. Вскоре история повторилась. А затем каждые полчаса приходилось топать ногами и покрикивать, чтобы прогнать незваных гостей.

К середине ночи ситуация накалилась до предела. Неизвестные налетчики перестали пугаться и почти не обращали на мои шиканья внимания. А с другой стороны палатки в это время засопели неожиданно объявившиеся дикие кабаны. Они пришли на отмель полакомиться вкусными сочными кореньями. Кабаны вскоре откочевали дальше по берегу, а котелок опять забренчал. Тогда я не вытерпел и рявкнул что было мочи. Напугал я только местных рыбаков. Они ошеломленно замолчали, оборвав свою размеренную беседу где-то посреди реки. А котелок... опять забренчал.

С первыми лучами солнца я вылез из палатки, извлек фотоаппарат, и залег возле котелка с твердым намерением выяснить, кто же мешал нам спать.

И вот загадка раскрыта, и виновные уличены! Из травы выскочила полевая мышь (не путать с полевкой!), стала на задние лапки, опершись передними о котелок, и стала принюхиваться. Уловив источник столь вожделенного запаха, мышь обследовала котелок со всех сторон и сообразила, что лучше всего добраться наверх по ручке. Осталось только протиснуться под крышку и... Благоразумие подсказало ей, что обратно выбраться будет не так просто, и умное животное отказалось от соблазна. Вот тут-то и раздался до боли знакомый лязг!

Пришлось вешать котелок на дерево. Оказалось, что голодными грызунами кишит вся местность. Трава вокруг ходила ходуном. Мы поняли, что попали в длительную осаду. Нужно было готовиться к другим активным действиям «неприятеля». И они не заставили себя ждать.

Ближе к обеду мыши теряли активность и пропадали. Наверное, отсыпались в своих норах. Это притупило нашу бдительность. Разложили на траве небольшие сухарики из черного хлеба, щедро намазав их чесноком, и начали разливать душистую уху. Может быть, именно сильный запах чеснока и сыграл злую шутку.

Неожиданно из пучка травы рядом с сухариками тихонько высунулась усатая мордочка с хитрющими глазенками. Не успели мы опомниться, как зверек схватил самый большой сухарь и бросился наутек. Сухарь цеплялся за траву, мышь смешно спотыкалась, но добычу не бросила. А вместо нее уже готовилась к покушению ее напарница.

Пришлось срочно спасать наш обед. Пока мы возились с сухарями, сзади послышался тихий шорох: еще один «абориген» скрытно подбирался к запасам гречки. Третья группа нападающих обнаружила под ивой закрытую коробочку с вареной кашей, оставленной для прикорма. Их вожак, словно заправский штангист, пытался ее перевернуть кверху дном передними лапками, стоя на задних. Похоже, что у мышей созрел хитроумный план захвата провианта, и они вели наступление сразу по нескольким направлениям, как заправские вояки.


**Молодой лис**

Спать мы ложились с опаской, прислушиваясь к каждому шороху. На удивление, ночь прошла относительно спокойно. Мыши миролюбиво сновали снаружи по периметру палатки. Правда, немного беспокоил какой-то скрежет, но мы полагали, что это к нам отношения не имеет.

Напрасно. Утром оказалось, что снаружи осталась забытая упаковка тушенки (в пакете из-под кефира). Мыши ее обнаружили и прогрызли в дне дырку, но до содержимого добраться не успели. Зато успели превратить в труху кусок бумаги, в которую раньше было завернуто сало.

Мы всерьез стали опасаться за наши припасы. Возникла угроза прямого вторжения в палатку. Мыши пока еще не ломились внутрь, но дело к тому шло. Выгрызть в ней дыру – минутное дело для таких мастеров. И тут меня осенило. Я вспомнил рассказ Константина Паустовского «Кот-ворюга». Там проблема с вечно голодным и прожорливым котом была решена очень просто: его накормили до отвала.

Сказано – сделано. На полянку среди травы положили гречку и вареный горох. Тут же и я с фотоаппаратом примостился. Мыши вначале опа-



Полевка



Угощение для друга



Милашка



сались объектива, напоминавшего око хищника, но быстро осмелели.

Было очень интересно наблюдать за ними лежа. В редкой траве хорошо просматривались все перемещения наших «бурундуков». Так мы их назвали из-за темной полосы вдоль спины – очень уж они напоминали своим видом сибирских жителей. Кстати, эта резко выделяющаяся на рыжевато-буром фоне полоска отличает полевую мышь от других родственных видов. Горло, грудь и брюшко у них серо-белое, а хвост практически равен длине тела. Единственное животное, имеющее такую же полосу на спине – мышовка лесная, но она живет в лесу, и хвост у нее на треть длиннее тела.

Пробираясь к полянке с противоположных сторон, грызуны часто пугали друг друга шорохом травы и испуганно юркали обратно. Возле кормушки нередко собиралось до трехчетырех особей, но особенных симпатий друг к другу они не выказывали. Правда, до драки дело не доходило – ограничивались угрожающими выпадами головой. Иногда появлялись и полевки.

Дело пошло на лад. На ночь я наваривал гороха. К утру он исчезал, а мыши, наевшись, притихли, и днем почти не показывались.

Такое изобилие грызунов не могло не привлечь хищников. Поэтому неудивительно было наткнуться вскоре на молодую лису. Наша встреча на тропе была неожиданной для обеих сторон, но меня она заметила все же гораздо позже. А уж когда заметила – задала стрекача, завернув уши назад. Это чтобы слышать, не настигает ли сзади враг.

Самые доверительные отношения у меня установились с полевкой. Она жила на высоком обрыве, где я ловил рыбу. В отличие от суетливых мышей, она вела себя совершенно спокойно и сразу признала во мне друга. Хвостик у нее был совсем маленький, не более четверти длины тела – как и положено у полевок. Мордочка округлая, не такая вытянутая, как у мышей, с маленькими ушами, спрятанными в шерсти. Окраска серовато-бурая с рыжинкой, равномерная по всему телу.

Когда я приходил ранним утром или даже днем, то сразу ставил перед собой коробочку с горохом – угощение для моего друга. Она тут же прибегала на шум, выбирала горошину побольше, усаживалась поудобней рядышком и принималась за еду.

Ела она совсем как человек. Откусывала по кусочку и быстренько-быстренько жевала. Желтая горошина в ее маленьких лапках с миниатюрными пальчиками выглядела как апельсин.

Не опасаясь, брала горох у меня прямо с руки.

Насытившись – интересовалась объективом.

Чуть позже к полевке присоединилась мышь. За еду они не спорили. Просто никогда не выходили вместе к кормушке. Вернее, не выходила полевка. Если мышь ела, то полевка только шевелила усами, выглядывая из своего лаза.

Мышь вела себя иногда не слишком вежливо. Не церемонясь, спиной отталкивала объектив фотоаппарата и протискивалась к кормушке под ним.

Я не удержался от заключительного эксперимента на сообразительность. Подвесил бублик на веревочке на небольшой высоте от земли и наблюдал, что будет. Мыши оправдали мои надежды. Они посчитали ниже своего достоинства грызть бублик, стоя на задних лапках. Одна из них ловко подтянулась, как гимнаст на кольцах, и перегрызла веревочку. И с победоносным видом помчалась в траву с добычей.

А вот я оказался не столь сообразительным и не взял с собой запасных аккумуляторов к фотоаппарату. О чем весьма сожалею. У маленького, но изобретательного народца еще много секретов осталось. Не зря же ведь Дерсу Узала называл их «люди» и относился как к равным.

Интересненькая вещица

# Наша зязюля





**Алег Кальчанка, Багдан Кальчанка, Кобрын**

**У верасні 2011 года сябры, вярнуўшыся з Чэмпіянату па спартыўнай арніталогіі, прывезлі мне… зязюлю. Птушку ім нехта даў у Мінску, яна чамусьці не магла лётаць. Крылы, галоўны птушыны «струмант», у добрым стане, ніякіх пашкоджанняў. Усё астатняе – таксама. Вось толькі нейкая яна змарнелая, больш касцей, чым мяса. Ну нічога, – вырашылі мы, – адкормім!**

І наша Зязюля пасялілася ў вялікую клетку, дзе некалі жыў Папугай. Птушка адчувала сябе добра, на людзей увагу амаль не звяртала, тым больш што клетка стаяла на балконе, а там людская мітусня значна меншая, чым у пакоі. Са з'яўленнем у нашай сям'і Зязюлі адразу ж паўстала і пытанне сапраўднай «зязюлячай» ежы. Вядома, што птушкі гэтыя харчуюцца ўсялякай бесхрыбетнай драбязой: насякомыя, смаўжы ды іншая жамяра падобнага кшталту. Лягчэй за ўсё было здабыць конікаў: выйшаў да рачулкі і лаві сабе на здароўе! Але ў хуткім часе нам сталі вядомыя і сапраўдныя гастранамічныя прыхільнасці нашай выхаванкі: больш за ўсё на свеце Зязюля любіла есці дажджавых чарвякоў! Калі яна бачыла гэтыя дэлікатэсы, то ўваходзіла ў такі шал, што не звяртала на нас ужо аніякай увагі.

Разам з Зязюляй мы атрымалі і магчымасць адказу на пытанне, якое хвалявала нас вельмі даўно: а ці праўда, што зязюлі ядуць валасатых вусеняў? Знайсці вусеняў было справай тэхнікі – і вось настаў доўгачаканы момант ісціны. І што ж вы сабе думаеце? Дзяўбе, толькі давай! Зязюля спрытна хапае ахвяру дзюбай і пачынае заўзята калаціць яе аб жэрдку! А потым, калі няшчасны вусень застаецца амаль «голым», птушка спрытна яго праглынае. Усё геніяльнае проста! Толькі вадзіцай трэба запіць, але ж гэта і ў нас, у людзей, водзіцца.

Хутка Зязюля стала браць ежу з рук. Але ў нашы планы зусім не ўваходзіла зрабіць яе хатняй птушкай. Галоўнае – падкарміць, паставіць на крыло і адпусціць. Неўзабаве настаў час правесці першы палёт. Пакуль што па кватэры. Мы вынеслі птушку ў вялікі пакой і адпусцілі. Дакладней, яна сама зляцела з рукі. Праляцела крыху і села на дзверы. Потым, крыху асмялеўшы, стала ўпэўнена лётаць па кватэры. Але для доўгага палёту ў выраій Зязюля была яшчэ пэўна не гатова: трошкі не хапала ёй тлушчу, і мы з новымі сіламі ўзяліся ліквідаваць гэты прабел.

Прайшоў яшчэ нейкі час, на працягу яго Зязюля старанна ела і набіралася сіл. Неяк непрыкметна яна ператварылася ў Зусім Дарослую Зязюлю. Яно і не дзіўна – у птушак гэта ўвогуле хутка адбываецца, а тут яшчэ такая кармёжка! Неўзабаве перад намі паўстала пытанне: на двары сярэдзіна верасня, калі выпусціць птушку, ці здолее яна паляцець і, галоўнае, ці даляціць да Афрыкі? Гэта вам не шпак, які можа і зімаваць застацца. Гэта сапраўдная зязюля, якая зімуе толькі там, дзе заўсёды цёпла і хапае ежы. Але ўсё ж пераважыла такое меркаванне: зязюляў мы адзначалі ў Беларусі і напрыканцы верасня. Таму цяпер дакладна будзе не позна выпусціць і нашу. Тым больш, што надвор'е стаяла амаль летняе, а таму, спадзяваліся мы, усё ў яе будзе добра.

Верасеньскі ранак выдаўся лагодным, ціхім і сонечным. Мы ў апошні раз пакармілі птушку і праз гадзіну вынеслі яе за горад. Зязюля, нібы ўжо адчуваючы сябе на волі, смешна круціла галавой і азірала наваколле. А вось і доўгачаканая свабода! Птушка ўзляцела ў паветра і без роздумаў накіравалася на поўдзень. Што ж, ляці зязюлька, шчаслівай табе дарогі!

*Ты, зязюля, ляці, праз Егіпет, Судан, паглядзі на Міжземнае мора.*

*Пажывí да вясны, упалюй саранчы, параўнай Беларусь з Нгорангора.*

*Паглядзі на людзей, як палюе пігмей, як жырафы дасталі да неба...*

*Ну а потым ляці, прычакаўшы вясны, правядзём мы с табой разам лета!*

# Вясёлая маляванка

## Прывітанне, маленькія чытачы!

**На гэты раз мы прапануем вам узяць каляровыя алоўкі і размаляваць усіх жывёл, якіх вы бачыце на малюнках. Акрамя гэтага паспрабуйце адказаць на наступныя пытанні:**

- Чым адметная кожная з гэтых жывёл?
- Дзе яны жывуць?
- Хто з іх сустракаецца ў Беларусі, а хто трапіў на дзіцячую старонку нашага часопіса з далёкіх экзатычных краін?
- Хто з гэтых жывёл дзікі, а хто жыве побач з чалавекам?
- Што яшчэ цікавае вы можаце пра іх расказаць?

А каб вам было зручней разбірацца з усімі пытаннямі, беларускі пісьменнік **Пятро Васючэнка** напісаў пра гэтых жывёл вясёлыя вершыкі.



### Карова

Навошта створаны каровы?
Каб мы усе былі здаровы,
З'ясі смятанку ці кефір,
І будзеш лёгкі, як зефір.



### Заяц

Нашто жывуць у свеце зайцы?
Каб іх не крыўдзілі мярзаўцы,
Каб не цягалі іх за вушы,
Каб грызці яблыні ды грушы.



### Рысь

Дзеля чаго існуе рысь?
Калі на рысь ты крыкнеш «Брысь!»,
Яна не кінецца ў кусты,
А пабяжыш хавацца ты!



### Ліса

Дзеля чаго жыве ліса?
Каб ціха шнырыць па лясах.
Яна за ўсіх звяроў мудрэй:
Цягае гусак і курэй.



### Сава

Навошта створана сава,
Чыя з вушамі галава?
Яна галосіць па начах,
Хаўтуры ладзіць па мышах.



### Змяя

Навошта створаны вужакі?
Яны праныры і пужакі,
Яны ядуць мышэй і жаб,
І я не раю іх пужаць.



### Вярблюд

Дзеля чаго жывуць вярблюды?
Яны – гарбатыя няўклюды,
Грызуць калючыя кусты,
І не баляць ім жываты.



### Вавёрка

Навошта створана вавёрка?
Каб грацыёзнай быць і вёрткай,
Каб мець утульнае жытло,
Арэхаў поўнае дупло.



### Жабка

Нашто жывуць на свеце жабкі,
Чые ў Парыжы любяць лапкі?
Каб не драмаў чарвяк і вусень
І каб быў сыты дзядзька-бусел.

# Birdrace – гонка за птушкамі













**У верасні 2013 года адбыўся юбілейны, дзесяты, чэмпіянат па спартыўнай арніталогіі. Сёлета ў ім удзельнічала 13 каманд.**

Такія чэмпіянаты праходзяць штогод у розных краінах ва ўсіх частках свету. Правілы спаборніцтваў часам адрозніваюцца, але мэта ў іх заўжды адна: за пэўны час убачыць як мага больш відаў птушак. Гонка за птушкамі захапляе шматлікіх аматараў не толькі духам спаборніцтва і магчымасцю стаць першым, але і сваёй непрадказальнасцю: падчас спаборніцтваў здараюцца самыя сапраўдныя арніталагічныя адкрыцці!

У Беларусі Birdrace праходзіць у першую суботу верасня на працягу ўжо дзесяці гадоў. Каманда звычайна складаецца з 4 чалавек, часта ўдзел у гонцы бяруць і замежныя назіральнікі. Найбольшая колькасць відаў, якую на працягу гэтага часу ўдалося адзначыць у 12-часовай гонцы камандзе-пераможцу – 115. Рэкорд сёлетняга чэмпіёна, каманды «Цмокі», аказаўся крыху ніжэйшы за абсалютны – «усяго» 109 відаў. Залішне будзе казаць, што сваю перамогу «Цмокі» (Дзяніс Кіцель, Дзяніс Табуноў, Іван Багдановіч, Дзмітры Харковіч) кавалі ў наваколлі беларускай арніталагічнай Меккі – Турава.

Кожны год у чэмпіянаце бярэ ўдзел усё больш новых каманд, новыя і новыя маладыя назіральнікі за птушкамі спрабуюць сябе ў гэтым незвычайным відзе спорту.

Далучайцеся да нас – цікавыя назіранні, незабыўныя хвіліны і адрэналін у крыві вам гарантаваныя!